наша свабода
№51(138) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 ТРАЎНЯ 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103
тэл. 228-69-18, 210-02-53
E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Рэпетыцыя безгалосых

*2.500 чалавек – «актыў» Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах – сабраліся ў пятніцу ў Палацы Рэспублікі, каб паслухаць свайго патрона. Другі Усебеларускі народны сход пераўтварыўся ў сольны выступ кіраўніка краіны.*


Фота Ул.ШЛАПАКА

### Народныя масы і лідэр

Нягледзячы на ўсе запэўніванні, што сход стане спосабам «параіцца з народам», прамовы «народа» былі зведзеныя да мінімуму. Імі ахвяравалі дзеля больш высакароднай мэты. Адзінае пытанне, якое стаяла на парадку дня, – зацвярджэнне «Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001-2005 гады».

Праграму – як і фінальную «Рэзалюцыю» – раздалі загадзя. Ніякіх зменаў уносіць у дакументы не спатрэбілася – як і чакалася, дэлегаты былі як адзін «за».

На сходзе дамінаваў адзін чалавек, усе астатнія не цягнулі нават на масоўку. З такім жа поспехам можна было выкарыстаць тэатральны заднік з намаляванымі на ім тварамі.

Адзіная магчымасць для дэлегатаў «засвяціцца» на экранах тэлевізараў (БТ забяспечыла прамую трансляцыю) – кароткі выступ з трыбуны з прамовай – быў жорстка абмежаваны. З дзвюх з паловай тысячаў права на выступ атрымалі ўсяго 45 чалавек, а рэалізавалі – усяго 21. Сярод іх былі выконваючы абавязкі прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Ігар Валатоўскі, міністр абароны Леанід Мальцаў, мітрапаліт Філарэт і інш. З гэтым «народам» А.Лукашэнка мае магчымасць «параіцца» ледзьве не штодня. Прафанацыя відавочная.

Зрэшты, тыя прадстаўнікі «простага люду», якім пашчасціла ўсё ж трапіць на трыбуну, не адрозніваліся вялікай арыгінальнасцю. Схема: «удзячнасць кіраўніцтву краіны + адстойванне інтарэсаў галіны» назіралася практычна ва ўсіх выступах, узгодненых, калі не напісаных, у нетрах прэзідэнцкай адміністрацыі.

Слабае знаёмства выступоўцаў з тэкстам стварала часам даволі цікавыя моўныя «шэдэўры».

### Персаналізаванае шчасце

«Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця», якую прэзентаваў А.Лукашэнка, абяцала шчасце кожнаму беларусу. Праўда, пры бліжэйшым разглядзе асобныя пасажы супярэчылі адзін аднаму, але хто гэта заўважыў? І хіба магчыма на практыцы, каб інтарэсы і ваўкоў, і авечак супадалі, а іхнія патрэбы задавольваліся на 100%?

Кіраўнік краіны старанна рабіў выгляд, што ён зусім не раздае перадвыбарных абяцанкі. Толькі аднойчы абмовіўся – сказаў «выбаршчыкі» замест «грамадзяне».

### «Будаўніцтва, харчаванне, экспарт»

Менавіта такія прыярытэты развіцця Беларусі на 2001-2005 гады вызначыў А.Лукашэнка ў сваім дакладзе пад гучнай назвай «За моцную квітнеючую Беларусь!». Ён прызнаў, што паўтараецца – прыярытэты не змяніліся з 1996 года. Але ўпарта пераконваў дэлегатаў, што за апошнія 5 гадоў ва ўсіх трох галінах быў зроблены такі прагрэс, што ніхто з беларусамі нават параўнацца цяпер не можа ў гэтых галінах.

Пры гэтым, па словах А.Лукашэнкі, у будаўніцтве пануе самы сапраўдны «разбой», а ў сельскую гаспадарку штогод укідваецца па паўмільярда долараў. Не ўсё ў парадку і з экспартам – нават самы паспяховы, па словах кіраўніка краіны, Мінскі трактарны завод, «не ўмее гандляваць», а беларускія прадпрыемствы не вытрымліваюць канкурэнцыі з расійскімі з-за высокіх падаткаў.

З уласцівай яму лёгкасцю А.Лукашэнка паабяцаў за бліжэйшыя пяць гадоў вырашыць «кватэрнае пытанне» – маўляў, дасць жыллё 300 тысячам сем'яў, палепшыць жыллёвыя ўмовы яшчэ 200 тысячам, — а гэтыя паўмільёны і ёсць ўся кватэрная «чарга».

### Залатую гару – кожнаму беларусу

Калі верыць кіраўніку дзяржавы, у бліжэйшыя пяць гадоў кожнага беларуса чакае проста фантастычная прыбаўка да заробку, стыпендыі, пенсіі. Лікуйце: сярэдні заробак у народнай гаспадарцы стане 250 доляраў, сярэдняя пенсія – 120-150 доляраў, стыпендыя – 60-80 доляраў. Праўда, толькі ў 2005 годзе.

Інфляцыі ў Беларусі не будзе, а калі будзе – то маленькая. У тым самым блаславенным 2005 годзе адзін долар можна будзе абмяняць на 2.000-2.100 беларускіх рублёў.

*Заканчэнне на стар.3*

## Набывай і выйгравай!

Арыгінальна распаўсюджваюць білеты грашова-рэчавай латарэі «Бярэсце-2» у Пружанскім і Кобрынскім раёнах. Настаўнікаў гэтых рэгёнаў літаральна прымушаюць іх купляць. Кошт латарэйных білетаў проста вылічваецца з заробкаў.

## Новы курортны падатак

У Гродзенскім раёне ўведзены курортны збор для наведвальнікаў санаторыяў і іншых месцаў адпачынку. Збор раўняецца 3% ад кошту пуцёўкі і 10% ад «мінімалкі» за тры дні так званага неарганізаванага адпачынку. Што праўда, ад гэтага вызваленыя дзеці да 16 гадоў і інваліды вайны і працы.

## Домашу не далі правесці сустрэчу

Крычаўскі райвыканкам адмовіў ініцыятыўнай групе па арганізацыі сустрэчы з магчымым кандыдатам на пасаду прэзідэнта Сямёнам Домашам у прадастаўленні памяшкання. У афіцыйным адказе чыноўнікі пішуць, што «прадастаўляць памяшканні ў будынку райвыканкама для сустрэчы з лідэрам руху «Рэгіянальная Беларусь» Домашам лічым немэтазгодным».

## Зноў «Басовішча»

20-21 ліпеня ў Гарадку пад Беластокам пройдзе чарговы фестываль музыкі «Басовішча-2001». Выступяць гурты *NRM*, *Zet*, *Deviation*, «Уліс», «Сонца Мао» і іншыя. Адзін дзень фэсту будзе прысвечаны фолк-музыцы. У сярэдзіне чэрвеня адбудзецца адборачны тур маладых гуртоў для ўдзелу ў конкурснай праграме «Басовішча».

## У Акадэміі навук – в.а. прэзідэнта

Прызначаны выконваючы абавязкі прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ім стаў акадэмік Ігар Валатоўскі, вучоны ў галіне фотабіялогіі і мембраннай біяфізікі. Дагэтуль ён быў віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, загадчык лабараторыі фотарэгуляцыі клетачных працэсаў Інстытута фотабіялогіі. Да ўсяго І.Валатоўскі ўзначальвае Дзяржаўную камісію па кантролі за правядзеннем уступных экзаменаў.

## Над Магілёвам нячыстае паветра

У красавіку ў Магілёве адзначаны рост узроўню забруджвання паветра. Так, сярэдняя канцэнтрацыя фармальдэгіду ў паветры горада перавысіла санітарныя нормы ў 1,3 раза, серавугляроду – ў 1,7 раза. Найбольш забруджаны – раён Задняпроўя. У Дняпры таксама ў красавіку назіралася павышэнне ўтрымання ў вадзе медзі, жалеза і цынку.

## Открытие сезона неодемагогии

*Необходимые рассуждения к более глубокому пониманию программной речи кандидата в президенты Республики Беларусь Александра Лукашенко на Втором Всебелорусском народном собрании*

Люди живут в плену у слов. Слышат слово и представляют за ним что-то – каждый по-своему – расплывчатое и туманное, порой не имеющее никакого отношения к действительности. Каждый из нас вкладывает свой, глубоко сокровенный смысл в абстрактные слова. В самом деле, что такое «рыночный социализм», «национализм» или «счастье»? Навязчивое злоупотребление подобной лексикой, перемежаемое заведомо ложными тезисами и подкрепляемое некими на ходу вдохновенно исторгнутыми цифрами, способно вызвать в воображении пассивного человека неописуемо прекрасные картины рая или же жуткие видения ада. Сам этот процесс в простом народе получил меткое определение «лапша на уши», а люди образованные говорят, что это «демагогия».

*Окончание на стр.5*

## КДБ хоча пляміць маладыя душы

Сведчанні студэнткі Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі Кацярыны Бохан:

«У аўторак, 15 траўня, прыблізна а палове на дзесятую падчас лекцыі ў аўдыторыю зайшла сакратарка з дэканата майго факультэта (будаўнічы факультэт БДПА) і паведаміла, што мяне выклікаюць у службу бяспекі акадэміі (пакой 237 1-га навучальнага корпуса). Увайшоўшы ў 237-мы, я пабачыла чатырох чалавек. Два з іх мне былі знаёмыя – начальнік аховы БДПА і супрацоўнік КДБ, адказны за БДПА. Адзін з незнаёмых мне людзей запрасіў мяне ў суседні пакой. Паміж намі на працягу гадзіны адбывалася размова. Ён прадставіўся Генадзем Іванавічам (прозвішча, на жаль, мне не ўдалося запомніць), адказным па палітычнай бяспецы па Мінскай вобласці. Пасведчання не паказаў. Пачаў размову з таго, што КДБ клапоціцца аб бяспецы дзяржавы і прапанаваў супрацоўнічаць.

Менавіта: распавесці пра замежнікаў, з якім мае кантакт ЗБС (Задзіночанне Беларускіх Студэнтаў), у прыватнасці, з тым, хто прысутнічаў на 6-м з'ездзе ЗБС 12-га красавіка. Атрымаўшы адмоўны адказ, працягнуў «палітычную адукацыю», выкарыстоўваючы такія фразы, як: «у них на Западе диктатура закон, это еще хуже, чем наша диктатура», «у немцев, например, спецслужбы работают гораздо жёстче, чем у нас... а мы бедные». Запытаўся, што мы прапануем рабіць тым, хто прыходзіць у ЗБС, што мы зрабілі за час нашага існавання, што мы збіраемся рабіць. Пытаўся, чаму мы не займаемся такой праблемай, як наркотыкі, (прапаноўваў заняцца гэтым пытаннем. Былі пытанні: «Чаму вы не любіце нашу структуру?» Часам адхіляўся на адвольныя тэмы: «А в чём для тебя заключается смысл жизни? А почему ты решила в ВУЗ поступать? А почему именно в этот ВУЗ? По специальности будешь работать?» Пасля задаваў пытанне пра планы ЗБС.

Ён даў мне свой працоўны тэлефон, але я сказала, што тэлефанаваць яму не буду. Ён адказаў, што праз пару дзён звяжацца са мной.

Напрыканцы ён яшчэ раз (у трэці раз ужо) запытаўся: ці буду я з ім супрацоўнічаць. Ізноў атрымаўшы адмоўны адказ, параіў захаваць канфідэнцыяльнасць. Я адказала, што па дарозе сюды я ўжо паведаміла некалькім чалавекам, куды іду, і што ён спазніўся са сваёй «просьбай». На гэтым і развіталіся».

Варта нагадаць, што гэта не першы выпадак, калі на актывістаў грамадзянскай супольнасці аказваюць ціск спецслужбы. Спецслужбы асабліва актывізавалі сваю дзейнасць у год прэзідэнцкіх выбараў. Хутчэй за ўсё, гэты ціск будзе ўзмацняцца – КДБ заняўся цкаваннем грамадзянаў за іх палітычныя перакананні.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**


Фота IREX/ProMedia

У той час, пакуль А.Лукашэнка запэўніваў усю Беларусь у сваёй міралюбнасці, людзі ў цывільным побач з Палацам Рэспублікі арыштоўвалі дзесяткі людзей, збівалі іх і ламалі рукі.

НАДВОР'Е




## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1370

## Аналогію зразумелі

18 траўня, калі ў Палацы Рэспублікі праходзіў так званы Другі Усебеларускі сход, Малады Фронт меўся правесці перформансную акцыю з нагоды Дня музеяў. Аднак супрацоўнікі спецслужбаў у цывільным яшчэ фактычна да яе пачатку пачалі затрыманні ўдзельнікаў акцыі.

Перформанс павінен быў пачацца ў 15.40 каля рэстарацыі «Макдональдс». Сюды маладафронтаўцы збіраліся прыйсці, пераўвасобіўшыся ў Леніна, Дзяржынскага, Гітлера і піянераў. Мэтай акцыі было паказаць падабенства тых, хто сядзеў гэтым днём у Палацы Рэспублікі, і персанажаў музея васковых постацяў.

Аднак на падыходзе перформераў да месца правядзення акцыі іх пахапалі і завезлі ў пастарункі. Цікава, што не кранулі толькі Гітлера.

**Алесь КАТОВІЧ**

## У Гродзенскім універсітэце баяцца канцэртаў

Рэктарат Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы пагражае 16 студэнтам гэтай вучэбнай установы адлічэннем.

Прычынай папярэджання, вынесенага студэнтам, стала іх затрыманне супрацоўнікамі міліцыі 6 траўня падчас альтэрнатыўнага канцэрта «Панк не можа быць апалітычным», які адбыўся ў прыватным гаражы на ўскрайку Гродна. Удзел у канцэрце бралі забароненыя ўладамі гурты. Падчас канцэрта супрацоўнікі міліцыі зрабілі аблаву і затрымалі 121 удзельніка канцэрта. Пасля асабістага дагляду, пошукаў наркотыкаў і гарэлкі ўсіх адпусцілі.

17 траўня ў рэктарат Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта разам з бацькамі былі выкліканыя 16 студэнтаў-удзельнікаў канцэрта. Падчас размовы прарэктар па вучэбна-выхаваўчай працы Іван Мартынаў сказаў маладым людзям: «Нам патрэбныя студэнты, якія прымнажаюць аўтарытэт нашага ВНУ, а тыя, што імкнуцца яго прынізіць, нам не патрэбныя». Рыгор Кабяк, начальнік аддзела па выхаваўчай працы універсітэта, прачытаў таксама некалькі артыкулаў з часопіса «Правакатар», канфіскаванага ў гродзенскіх панкаў падчас затрымання, і адзначыў, што гэтае выданне скіраванае супраць сённяшняй улады.

**БелаПАН**

## Самы лепшы Бог

Кінадакументаліст Юрый Хашчавацкі, аўтар знакамітага фільма «Звычайны прэзідэнт» пачаў паказ у свеце сваёй новай публіцыстычнай кінастужкі «Багі сярпа і молата». У ёй рэжысёр паказаў тоеснасць дагматызму расійскага бальшавізму і праваслаўя, што, магчыма, сталася трагічнай перадумовай лёгкага распаўсюджання камуністычнай ідэалогіі на тэрыторыі былой імперыі. Нездарма ж, лічыць ён, сёння беларусам уводзяць у вушы, што праваслаўе – галоўная беларуская рэлігія. Між тым, як сведчыць гісторыя, у краіне заўсёды стагоддзямі мірна ўжываліся самыя розныя рэлігійныя плыні, сярод якіх самымі масавымі былі уніяцтва, каталіцтва, праваслаўе, іудаізм, пратэстантызм. Гвалтоўнае навязванне «самай правільнай» рэлігіі шляхам крытыкі праз дзяржаўныя СМІ іншых плыняў дае залішняе напружанне ў грамадстве, што ніяк не спрыяе хрысціянскаму міру.

Натуральна, што такі пагляд дужа не падабаецца праваслаўным імперскім фундаменталістам і камуністам. Юрый Хашчавацкі папаў пад агонь крытыкі з іх боку, часам шавіністычнай і несумленнай. Увогуле ж праблема наспела, пра што сведчаць выказванні наведвальнікаў інтэрнэт-сайта адной з беларускіх газет, якая змясціла на сваіх старонках ліст праваслаўнага верніка, у каторым ён звяртаецца з просьбай пакінуць праваслаўную царкву ў спакоі. Зварот цалкам слушны, але ж сама Руская праваслаўная царква ў асобе святара Філарэта выйшла з цені пад тэлевізійныя сафіты, публічна падтрымала цяперашнюю ўладу і мусіць падзяляць з ёй усе палітычныя непрыемнасці.

Але ж у такой далікатнай справе лепш даць слова наведвальнікам сайта, якія адказвалі на вышэйназваны ліст праваслаўнага верніка.

«...Руская Праваслаўная Царква абвесціла Беларусь сваёй кананічнай тэрыторыяй. Вось так мяне зрабілі кананічным дадаткам рускага праваслаўя. Я вернік-каталік і нічога супраць верніка-праваслаўнага ці другой канфесіі не маю. Але я супраць таго, каб вярхоўныя іерархі займаліся справай барацьбы за душы вернікаў, уцягваючы ў гэта мірскіх палітыкаў самага высокага ўзроўню».

«...усе тры асноўныя канфесіі ў Беларусі хрысціянскія і павінны існаваць мірна, як калісьці і было. Але гэта адбудзецца не раней, чым адновіцца Беларуская Аўтакефалія Праваслаўнай Царквы. Да гэтага часу ж будуць выходзіць ангажаваныя фільмы Азаронка, раздавацца прэміі барцам за чысціню веры Беларускім экзархатам і многае іншае».

«А дзе і калі Вы бачылі прэзідэнта РБ разам з ксяндзом, равінам, муфціем ці пратэстанцкім прапаведнікам? А вось Філарэта разам з ім мы бачым на кожным свяце. А ці не ўзнікала у Вас пытанне, адкуль у БЭ РПЦ грошы на гэтакае будаўніцтва (паства ж бедная). Мяне цікавіла, але калі на бутэльцы віна я ўбачыў назву кампаніі-імпарцёра «ДИАКОНИЯ», усе пытанні зніклі».

Здаецца, гэтага дастаткова для таго, каб пачаць прыслухоўвацца да крытыкі з боку грамадства?

**Аляксандар ДУБРАВІН**

## Павел Севярынец папярэджаны

Нечаканы прысуд 18 траўня вынес суддзя Савецкага раёна Мінска Руслан Казадаеў па адміністрацыйнай справе лідэру МФ Паўлу Севярынцу. П.Севярынец абвінавачваўся ў парушэнні артыкула 167 часткі 10 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях — выкарыстанне назвы незарэгістраванай арганізацыі, гэта значыць, Малады Фронт. Руслан Казадаеў толькі папярэдзіў Паўла Севярынца.

Сам лідэр маладзёжнага крыла БНФ П.Севярынец лічыць, што суд над ім невыпадкова адбываўся 18 траўня — у дзень Другога Усебеларускага народнага сходу. Гэты дзень быў адзначаны лакальнымі, але дужа рэзананснымі акцыямі пратэсту беларускай апазіцыі.

**Рычард ЛЬВОЎ**

## Горкія «Рэдзькі»

У Жабінкаўскім райсудзе Брэсцкай вобласці завершаны працэс па крымінальнай справе ў адносінах да 3 супрацоўнікаў пункта вагагабарытнага кантролю «Федзькавічы». Аляксандр Шаўчук, Віктар Чабай і Уладзімір Сычук атрымалі пакаранне ў выглядзе выпраўленчай працы на тэрмін 2 гады кожнаму. Цягам пяці гадоў яны не маюць права займаць пасады, адпаведныя ранейшым.

Суд тым самым пацвердзіў абвінавачванні супраць «дальнабойшчыкаў» аб незаконных грашовых паборах на 620-кіламетровым адрэзку дарогі еўрапейскага значэння з пунктамі кантролю «Рэдзькі» на ўсходзе і «Федзькавічы» — на захадзе.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

### ЛАНЦУГ НЕАБЫЯКАВЫХ ЛЮДЗЕЙ



Праліўны дождж не перашкодзіў сотні актывістаў АГП пасля 18 гадзінаў вечара стаць у жывы ланцуг уздоўж праспекта Скарыны, каб нагадаць Усебеларускаму сходу пра зніклых палітычных апанентаў рэжыму. Актывісты АГП стаялі з партрэтамі Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкі, Дзмітрыя Завадскага. У канцы акцыі чацвёра дэманстрантаў, якія трымалі расцяжку «Не здамо Беларусь!», былі затрыманыя. Пасля заканчэння акцыі амапаўцы жорстка збілі актывіста БНФ Алеся Стральцова. 8 міліцыянтаў білі яго рукамі і нагамі па нырках. Затрыманых даставілі ў ГАМ Ленінскага раёна Мінска, дзе на іх былі складзеныя пратаколы аб адміністратыўным правапарушэнні.

## Бібліятэка Гедройца будзе ў Беларусі

8 траўня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася цырымонія перадачы прыватнага збору кніг рэдактара парыжскага часопіса «Культура» Ежы Гедройца, ураджэнца Мінска. Яна была прымеркаваная да адкрыцця ў бібліятэцы выставы, прысвечанай асобе Ежы Гедройца. Арганізатарамі акцыі выступілі Польскі інстытут у Мінску і Таварыства апекі над архівам Літаратурнага інстытута ў Парыжы пад патранажам міністэрства замежных справаў і міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы.

Па ініцыятыве нашчадкаў Ежы Гедройца ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі перададзены збор, у які ўвайшлі камплекты часопіса «Культура», «Исторические тетради» і выданні Літаратурнага інстытута ў Парыжы. Апрача таго, да канца гэтага года з прыватнага збору Гедройца ў фонды Нацыянальнай бібліятэкі мяркуецца перадаць яшчэ 4,5 тысячы тамоў.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**

## Бельгійскія грошы для беларускага інсуліну

Пасля наведвання 17 траўня дзяржаўным міністрам Бельгіі Раберам Урбенам ААТ «Белмедпрэпараты» ў беларускага боку з'явілася надзея на размарожванне бельгійскай крэдытнай лініі для пашырэння вытворчасці і ўстаноўкі дадатковага абсталявання для вытворчасці таблетачнай формы лекавых прэпаратаў.

Па словах гандлёвага дарадцы пасольства Беларусі ў Бельгіі Аляксандра Сідарука, крэдытная лінія ў памеры 350 мільёнаў бельгійскіх франкаў была адкрытая для Беларусі па распараджэнні караля Бельгіі Альбера II у 1995 годзе. Для крэдытавання быў выбраны праект па арганізацыі на «Белмедпрэпаратах» ампульнай вытворчасці інсуліну. Першая транша крэдыту ў памеры 156 мільёнаў франкаў была пералічаная і паспяхова асвоеная: на прадпрыемства завезлі бельгійскае абсталяванне, пачалася вытворчасць прэпарата. Аднак затым, пасля прыняцця Еўрасаюзам у верасні 1997 года «Заключэння ЕС аб узаемаадносінах з Беларуссю», аказанне Беларусі тэхнічнай і іншых відаў дапамогі, апрача гуманітарнай, было прыпыненае ўсімі краінамі ЕС, уключаючы Бельгію. Азнаёміўшыся з арганізаванай ампульнай вытворчасцю інсуліну і тэхнічна ўзгодненым праектам па стварэнні новай таблетачнай вытворчасці іншых медыцынскіх прэпаратаў коштам у 95 мільёнаў франкаў, спадар Урбен заявіў аб намеры ініцыяваць разгляд пытання аб размарожванні крэдытнай лініі ў дзяржаўных структурах Бельгіі. Наладжванне вытворчасці медыкаментаў можна разглядаць як гуманітарную акцыю, скіраваную на захаванне здароўя нацыі.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

## Далёкія перспектывы дыпламаваных

На працягу бліжэйшых 10 гадоў будзе мадэрнізаваная беларуская сістэма вышэйшай адукацыі. Пераход да масавай вышэйшай адукацыі адбываецца зараз ва ўсіх краінах. Па ўсім свеце ў гэтым годзе налічваецца каля 100 мільёнаў студэнтаў, а яшчэ ў 1996 годзе іх было не больш за 80 мільёнаў. Сёння ў Беларусі на 10.000 чалавек прыпадае 300 студэнтаў, пры гэтым яшчэ ў колішнім СССР гэты паказальнік быў не больш за 186 студэнтаў.

Але пры масавай адукацыі горшае яе якасць. Ужо створаны інстытут кантролю якасці ведаў, які і зоймецца распрацоўкай гэтага механізма. Пакуль што тэставанне ведаў сярод выпускнікоў праводзіцца на добраахвотнай аснове, і па іх жаданні ягоныя вынікі могуць не залічацца як выпускны іспыт. Таму жадаючых праверыць свае веды за год павялічылася ўтрая — з 6 да 18 тысяч школьнікаў, а вынікі тэставання лепшыя за Расію, якая ўвяла гэтую працэдуру раней за нас.

Гэтаксама будзе пашырацца колькасць такіх навучальных установаў, як вышэйшыя каледжы (зараз іх 4), а пры кожным ВНУ плануецца ствараць такія ўстановы, якія будуць даваць па тых жа спецыяльнасцях сярэдне-спецыяльную адукацыю.

На мадэрнізацыю адукацыі мае вялікі ўплыў Балонская дэкларацыя 1999 года, якую мы пакуль не падпісалі, але для гэтага ёсць вялікі стымул: калі краіна выконвае ўсе ўмовы дэкларацыі, яе дыплом аб вышэйшай адукацыі прызнаецца ўсімі падпісаўшымі яе краінамі. Для гэтага неабходна ўвесці двухузроўневую сістэму адукацыі – 4 базавыя гады і магістратура, а таксама стварыць сістэму кантролю ведаў, што і мяркуецца зрабіць да 2010 года.

**Алена ЛАБАНАВА**

### МУЗЕІ

## Абнаўленне міцкевічавай экспазіцыі

25 траўня цікавая культурніцкая падзея адбудзецца ў Навагрудку. У гэтым горадзе ў Доме-музеі Адама Міцкевіча адкрыецца новая экспазіцыя. Са словаў дырэктара дома-музея Паўла Гайбы, старая працавала з 1992 года, таму за гэты час, калі Міцкевіча пачалі вывучаць у школах і адзначылі 200-годдзе з дня народзінаў паэта, абнаўленне ягонай біяграфічнай экспазіцыі наспела само сабой. Зроблена гэта за кошт мясцовага бюджэту. Многія рэчы са старой экспазіцыі належалі Музею літаратуры імя Міцкевіча ў Варшаве і знаходзіліся ў Навагрудку на дэпазіце (часовым захаванні). Цяпер палякі іх забіраюць.

Але, як распавёў П.Гайба, экспазіцыя не збяднее, а наадварот, пабагацее і стане сапраўды беларускай. Справа ў тым, што польскія экспанаты заменяць не копіямі, а сапраўднымі, звязанымі з Міцкевічам і ўзятымі з кансервацыі беларускімі. Сярод іх, напрыклад, посуд, мэбля, партрэты, кнігі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## На Брэстчыне знікаюць аўтобусы

Ужо трэці па ліку камфартабельны аўтобус замежных транспартных фірмаў знікае на тэрыторыі Беларусі: два — у Брэсце і адзін — у Бярозаўскім раёне. Пацярпелыя скардзяцца, што за межамі пераходу «Варшаўскі мост» ужо нельга спадзявацца на бяспеку і пакідаць без нагляду машыну.

Варта было, прыкладам, грамадзяніну Польшчы Раману Б. зрабіць прыпынак на АЗС «Сокалава», як праз некалькі хвілінаў ягоны аўтобус «Сканія» 2000 года выпуску быў скрадзены невядомымі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Шарыкавы-сатаністы

Актывісты Гродзенскага грамадскага аб'яднання па абароне жывёлаў «Дабрыня» выявілі ў Гродне групу маладых людзей, якія ўчыняюць зверствы над жывёламі, пераважна над катамі.

Маладыя нелюдзі адсякалі жывёлам лапкі, галовы, убівалі ў цела кол. Жыхары вуліцы Пушкіна, дзе зафіксаваныя гэтыя жудасныя злачынствы, называюць гэтых людзей «сатаністамі» і адзначаюць, што каты знікаюць у гэтым раёне ўжо на працягу двух гадоў, а пасля іх знаходзяць па-зверску забітымі. «Дабрыня» мае намер звярнуцца з заявай у пракуратуру, каб спыніць жорсткія катаванні і забойствы жывёлаў, і робіць намаганні звярнуць на гэтую праблему ўвагу грамадскасці горада.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Чарга па бартэр

Для 6.520 пінскіх трыкатажнікаў адміністрацыя ААТ «Палессе» зацвердзіла дакумент, паводле якога тавары шырокага ўжытку зноў, як раней за савецкім часам, будуць размяркоўвацца па папярэдніх заявах і спісах. «Палажэнне аб парадку выдачы заработнай платы таварамі ў бартэрнай секцыі магазіна «Гандлёвы цэнтр» падрабязна расшыфроўвае механізм размеркавання, у тым ліку выкіданне з чаргі за прагулы ці з'яўленне на працы ў нецвярозым стане.

Гэтая «саўковасць» на фоне запыленых у крамах тэлевізараў, лядоўняў, пральных машынаў і іншага даброцця, насамрэч адзінае зараз выйсце для людзей, якім прадпрыемства не здольнае заплаціць грашыма.

**Галіна БАРАВАЯ**

### МЕДЫЦЫНА

## Платных паслугаў у клініках стане больш

Да 108% у параўнанні з 2000 годам плануецца павялічыць сёлета платныя медыцынскія паслугі жыхарам Брэсцкай вобласці.

Паводле інфармацыі ўпраўлення аховы здароўя аблвыканкама, летась платных паслугаў было аказана на 764 мільёны рублёў, што склала 2% ад сродкаў, што паступілі на медыцыну. Платных паслугаў замежным грамадзянам было аказана на суму 2.384 долары, з іх у абласной бальніцы — на суму 1.796 долараў.

Летась таксама было арганізавана 260 медыка-сацыяльных ложкаў, гэта значыць бальнічных месцаў, за якія часткова плацяць сваякі хворага.

На працягу бліжэйшых гадоў у стацыянарах вобласці плануецца арганізаваць больш за 800 медыка-сацыяльных ложкаў. У абласным упраўленні аховы здароўя ўпэўненыя, што сетка платных паслугаў павінна быць шырэйшай. Аднак яе развіццю перашкаджае дэфіцыт магутнасцяў — зношанае абсталяванне і недахоп неабходных матэрыялаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Школа против детской психики

У российских детей стали все чаще выявлять психические отклонения. Около одного миллиона детей до 17 лет сегодня находятся под наблюдением психиатра.

Психические расстройства стали одной из главных причин освобождения молодых людей от службы в армии, неуспеваемости в учебных заведениях, совершения правонарушений. По мнению специалистов, к подобным нарушениям могут приводить непродуманные учебные программы, которые слишком нагружают детскую психику.

За последние пять лет частота психических отклонений у детей до 14 лет увеличилась на 16,7 процента. В отдельных регионах нарушениями психики страдают до 71 процента детей. Более половины случаев приходится на умственную отсталость, около шести процентов страдают психозами, два процента — шизофренией.

В то же время психотерапевтическая помощь детям находится не на должном уровне. С 1995 года упразднена должность детского и подросткового психиатра, нет специализированных детских лечебниц. Больные продолжают получать устаревшие препараты, которые обладают серьезными побочными эффектами.

**РИА «Новости»**

СПОРТ

# Лік для ўсіх – 1:1, але вынік розны

«Славія»–«Белшына», менавіта такая пара камандаў выйдзе ў гэтую нядзелю на поле галоўнага стадыёна краіны, каб разыграць ганаровы трафей – Кубак Беларусі па футболе.

У гісторыі клубаў мае месца факт, калі яны ўжо сустракаліся ў рашаючым кубкавым паядынку ў 1999 годзе. Тады па пенальці перамаглі бабруйчане. Дарэчы, сапернікі па два разы валодалі, як і мінскія дынамаўцы, пачэснай узнагародай. Атрымліваецца, што калектыў, які выйграе зараз фінальны матч, першым у рэспубліцы зробіць гэта трэці раз.

Абедзве паўфінальныя сустрэчы завяршыліся ў мінулую пятніцу з аднолькавым нічыйным лікам – 1:1, і былі вельмі падобныя адна на другую перш за ўсё даволі драматычнай канцоўкай.

Да 80-ай хвіліны сапернік мазыран – сталічнае «Дынама» – быў наперадзе – 1:0 (Валадзянкоў) і па выніках дзвюх гульняў (у Мінску гаспадары прайгралі, прапусціўшы мяч) разлічвалі, як мінімум, на дадатковы час. Каб не лепшы снайпер мінулагодняга першынства (31 забіты гол – рэкорд чэмпіянатаў) Раман Васілюк, які аднавіў раўнавагу ў ліку – 1:1. А такі вынік ніяк не задавальняў футбалістаў Аляксандра Піскарова, і, у выніку, трэці год запар у фінал выйшла каманда, якую другі сезон узначальвае югаслаўскі спецыяліст Улада Петравіч.

Аматары футбола змаглі ўбачыць уначы тэлетрансляцыю ў запісе другога тайма матча, але, на жаль, такіх фанатаў было не вельмі шмат, таму што замест запланаванага выхаду ў эфір у 0 гадзінаў 20 хвілінаў, з-за маруднага зацягвання паказу ўсіх мерапрыемстваў, звязаных з 2 Усебеларускім сходам, тэлесетка была «зломана», і цікавае спартыўнае відовішча адсунулі яшчэ далей.

Прыхільнікі рэчыцкага «Ведрыча-97», а іх сабралася на стадыёне каля 5 тысячаў, доўгі час будуць успамінаць хатні паўфінальны «бой» гаспадароў супраць «Белшыны».

Забіўшы ў другой палове сустрэчы гол з адзінаццаціметровага ў вароты гасцей (Канавалаў), рэчычане ўтрымлівалі такую неабходную перавагу ажно да апошніх хвілінаў. Нічыя – 0:0 на выездзе тыдзень таму пры такім раскладзе выводзіла б іх, а не лідэра сёлета чэмпіянату – «Белшыну» далей. Футбалісты з Гомельшчыны ўжо былі аднойчы фіналістамі Кубка, але паўтарыць поспех 8-гадовай даўнасці не змаглі і за тры хвіліны да заканчэння прапусцілі мяч (Каролік), які і пахаваў усе надзеі. Нічыя прынесла агульную перамогу выхаванцам Вячаслава Акшаева.

Застаецца дадаць, што тэлепаказ фінальнай сустрэчы адбудзецца ў прамым эфіры, 27 траўня, пачынаючы з 17 гадзінаў. На гэты раз нейкіх там перашкодаў не прадбачыцца.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Доўгі і кароткі шлях наверх

Адразу дзве нацыянальныя жаночыя зборныя Беларусі – па ручным мячы і баскетболе – пачалі ўдзельнічаць у адборачных спаборніцтвах да чэмпіянатаў свету і Еўропы.

Каб трапіць на турнір у Італію напрыканцы года, нашым гандбалісткам, пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера Леаніда Гуско, патрэбна толькі паспяхова прайсці двухраўндавы плэй-оф супраць галандак, якія ў табелі аб рангах знаходзяцца значна ніжэй за беларусак.

І першы з іх яны правялі ў суботу на выездзе. З самага дакладнага кідка па варотах галандкі захапілі ініцыятыву і ніводнага разу не дазволілі наблізіцца саперніцам да іх у ліку бліжэй, чым на чатыры мячы. Было, што адрыў складаў дзесяць галоў. Усё ж на перапынак беларуская каманда адправілася, прайграваючы з лікам 11:16. На жаль, ніякіх добрых для нас пазытыўных зменаў далей не адбылося, і нават намаганні і ўдалая гульня дэбютанткі зборнай Крысціны Сватко, якая вызначылася лепшым паказчыкам па закінутых мячах з нашага боку, не дазволілі дагнаць саперніцаў. Адрыў, наадварот, яшчэ больш павялічыўся і склаў увогуле шэсць мячоў – 26:32. Паражэнне, нечаканае для ўсіх!

Гульня ў адказ адбудзецца ў Гомелі ў бліжэйшую суботу. І каб паехаць на чэмпіянат свету на Апеніны, нам патрэбная перамога, прычым з розніцай у сем галоў.

Няўдала пачалі кваліфікацыйныя спаборніцтвы ў групе «Е», якія праходзяць у Сафіі, і баскетбалісткі Віктара Бялевіча. Акрамя беларускай дружыны за дзве пуцёўкі, толькі яшчэ ў наступны этап адборачнага цыкла чэмпіянату Еўропы-2003, у Балгарыі змагаюцца гаспадыні пляцоўкі і таксама зборныя Босніі і Македоніі.

Свой стартавы паядынак нашы ўступілі апошнім – 79:82, і толькі дзве перамогі ў астатніх сустрэчах дадуць магчымасць працягнуць шлях наверх.

А параза ў «балгарскім выпрабаванні» на цэлыя два гады пазбавіць беларускіх баскетбалістак магчымасці ўдзельнічаць у афіцыйных міжнародных матчах. А гэта, як кажуць, смерці падобна.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# «Война была проиграна вдрызг...»

## *В мае 1988 года начался вывод советских войск из Афганистана. Интернациональный долг был выполнен*

*Когда в 1979 году в Афганистане победила так называемая народно-демократическая революция, мы мало что знали о внутриполитической ситуации в Афганистане, о чаяниях тех или иных группировок, о тех или иных религиозных направлениях, многие из которых не были согласны с политикой, проводимой тогдашним руководителем Кармалем. По сути дела он на своих плечах привел советскую армию. Для афганцев факт агрессии был налицо.*



Военная машина — это не строительная бригада. Пришла кадровая армия — на основании декабрьского договора с Советским Союзом от 1978 года об оказании помощи — защищать завоевания революции, проведенной Кармалем и его партией. Естественно, что сразу же появилась оппозиция. Кстати говоря, эту оппозицию возглавил наш нынешний, скажем так, оппонент по истории, профессор Рабани. Оппозиция стала получать материальную и военно-техническую помощь. Причем очень серьезную и внушительную. Я думаю, она измерялась сотнями миллиардов долларов.

Сколько же денег угрохала СССР на то, чтобы подкрепить холодную войну, то есть поддержать эту «экспериментальную площадку»? Афганистан оказался именно «экспериментальной площадкой». Мы там проливали кровь и очень часто не понимали, что же такое мы делаем, называя все это «интернациональным долгом».

До сих пор остается загадкой, была ли правдивой информация о том, что на территории Афганистана будут устанавливаться стратегические ракеты средней дальности, которые поставят под угрозу сибирский военно-промышленный комплекс в случае разворачивания прямых боевых действий, — или это была «утка», заведомо ложные сведения, заброшенные в Политбюро КПСС по оперативным каналам.

Каким образом получилось так, что группа лиц, наделенных властью, приняла совершенно безумное решение и фактически ввергла страну в агрессивную акцию против другого суверенного государства?

Выгода, наверное, как я теперь понимаю, была, с точки зрения кремлевских старцев. Чисто политический миф, что все-таки из искры возгорится пламя. Из этой искры они пытались развести огонь и в Африке, и в Латинской Америке, и где только ни пытались. Но война в стандартах, война в технологиях, война в экономике была проиграна вдрызг, полностью. И Афганистан всей своей историей ускорил процесс распада советского государства и, естественно, разлома нашей экономической модели. Это факт. Меня — просто как гражданина — очень волнует вопрос. Кто-нибудь извлек из этого опыта урок, чтобы такая ситуация не повторилась еще раз? Кто же конкретно несет ответственность? Какое-то политбюро когда-то при каких-то обстоятельствах подписало решение о вводе войск. Заработал маховик. Сколько стоил этот маховик в день? Сколько конкретно потеряли мы денег, которые могли бы пойти на развитие нашей экономики? Я думаю, что это страшная, печальная статистика, которая касается конкретно коммунистического режима. И он обязан за это отчитаться.

Мы так до конца и не знаем, сколько же мы потеряли людей. Помимо всего прочего нужно понимать, что, по сути дела, там убивали и детей, и женщин, и стариков нашими руками. Это эпохальное решение политбюро является основой для того, чтобы судить его членов, ибо была пролита кровь, за которую никто пока не несет ответственности. Генерал Громов гордо поднял голову, вывел войска из Афганистана. Опять-таки, это вопрос очень серьезный и малоизученный. Как все-таки удалось договориться с местными бандформированиями, силами оппозиции и сопротивления?

Американцы тоже должны извлечь для себя уроки из всего произошедшего. За счет своих налогоплательщиков США испытывали оружие в реальных боевых условиях на этой «экспериментальной площадке». Десятки миллиардов долларов потрачено на всевозможные технологии, тактики, стратегии.

Бабрак Кармаль, насколько я понимаю из того, что мне известно, видимо, не сумел преодолеть внутренние партийные, межпартийные, межконфессиональные, межэтнические противоречия. И был вынужден уйти. Его сменил Наджиб. У меня нет каких-то особых симпатий или антипатий к одному или другому. Трагичны судьбы обоих. Их уже нет в живых. Но Наджиб остался на своей родной земле, остался брошенным. Его, по сути дела, предали. С нами ушли все, кто мог. А Наджиб остался в Афганистане на территории ооновской миссии.

Талибы все сделали для того, чтобы ворваться на территорию этой миссии и повесить Наджиба. Так бесславно и трагически завершилась революция 1979 года.

Я много общался с афганцами. Это очень гордые люди. Они говорят о человеке либо хорошо, либо никак. Насколько мне известно, Бабрак Кармаль умер, и это, наверное, произошло в Москве. Но его привезли в Афганистан и похоронили. Жизнь приучила афганцев, несмотря на то горе, которое они пережили, очень взвешенно относиться к анализу деятельности конкретной личности. Бабрак Кармаль был для них человеком, который привел на своих плечах армию.

И складывается стереотип, когда люди не то чтобы стесняются мирной жизни. Они просто не понимают, как можно выяснять отношения без автомата Калашникова или еще чего-нибудь подобного.

**Алексей НОВОТОЧИНОВ**
**Vesti.ru**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 21 - 27 мая

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**Овен.** Если примерно месяц назад вы очень постарались укрепить отношения с заинтересованными людьми и с родственниками, получали ценную информацию финансового характера, то сейчас сможете собрать урожай. Женщины способны оказать неоценимую услугу, возобновить отношения. Нельзя сказать, что жизнь насыщена событиями, но незначительные новости разнообразят досуг.



**Телец.** Вы не зря старались и терпели лишения. Готова реализоваться месячной давности мечта, особенно если речь шла об эмиграции или больнице. Дела идут на поправку. В среду придется решать с вышестоящими или властями какие-то задачи, и в этом случае не бойтесь сыграть, поскольку высок фактор случая и авантюризм воспринимается вполне адекватно.



**Близнецы.** Если вы предварительно провели целую серию встреч, поисков друзей и единомышленников, то сейчас почувствуется, как растет авторитет. В среду кто-то получит известие и, может быть, предпримет авиаперелет или договорится о встрече с влиятельными фигурами. Во второй половине недели увеличиваются шансы получить закулисную поддержку, завершить с друзьями задуманное.



**Рак.** В среду кто-то доверит вам свои секреты или, во всяком случае, вы соприкоснетесь с тайнами жизни. Вы сейчас, скорее, командный игрок, чем сильный и яркий лидер, но можете быть удовлетворены намечающимися перестановками в кабинетах. Для вас на работе начинают создаваться более благоприятные возможности. Почему бы и не попраздновать. В субботу нежелательно делать покупки.



**Лев.** Придется заниматься уже знакомыми вам делами. В среду вы хорошо смотритесь в процессе публичного выступления, поэтому если желаете по-дружески урегулировать какой-либо вопрос, то назначайте свидание. Супруг способен удивить нестандартным предложением. Вероятно выдвижение на новую должность только в том случае, если вы готовили почву примерно за месяц до этого.



**Дева.** Великолепное время для карьеры и решения важнейших вопросов. Конечно, важную роль здесь играет поддержка влиятельного лица или иностранного деятеля. В худшем случае, из затруднительной спорной ситуации вы способны выйти с наименьшими потерями. В среду намечается редкая удача в неожиданных предприятиях, поэтому если поступает предложение — не стоит долго думать.



**Весы.** Дела идут лучше вдали от дома. Но даже и дома все, что вы могли сделать со своей стороны — сделали. И похоже, что общество это по достоинству оценит. Не исключено, что вы достигнете пика популярности, который только возможен в вашей ситуации. Значит, есть шанс оценить свои способности. Намечается свадьба или создание приличного союза.



**Скорпион.** Пока ничего нового. Если основная стезя в течение месяца проходила через финансовые дебри, то сейчас вас ждет реальная коммерческая отдача. Если же более всего вы были увлечены проблемами супруга и преодолением совместных трудностей, то появится повод для праздника. Со второй половины недели в квартирном вопросе намечается перелом к лучшему.



**Стрелец.** Моральное поощрение на работе также вещь немаловажная. Ощущение своей значимости, получение соответствующих почестей — разве это не достойная оценка? Материальное вознаграждение, скорее, намечается у супруга. Если вы не сдавались, то в семейной или просто в личной жизни намечается грандиозное мероприятие. Отвлекитесь от дел, от заработков, больше играйте и импровизируйте.



**Козерог.** Долго длилась эпопея на работе — и вот есть возможность освободиться и расправить крылышки. Во второй половине недели вы озабочены приемом гостей или же завершением оформления собственной квартиры. Домашние хлопоты венчают рабочий марафон. В среду вероятны хорошие возможности грамотно распорядиться деньгами, произвести обмен или перечисление средств.



**Водолей.** Нормальная творческая реализация или любовь — главный лейтмотив жизни. Плоды любви дети также занимают ваше внимание и приносят радостные переживания. В среду неожиданное стечение обстоятельств приводит к примирению или возвращает любимого человека. С другой стороны, импровизация частенько вещь хорошо продуманная, а посему — дерзайте. Вас хорошо воспринимает публика.



**Рыбы.** Вероятно, вы долго мучились с задержкой финансовых поступлений на ваш счет. И вот наконец дело сделано. В среду появляются гости, способные хорошо повлиять на обстановку в доме. Судьба поворачивается лицом к вам, открываются шлюзы для нормальной профессиональной деятельности. Хорошо бы придумать для родных и близких праздник, это смягчит возможные разногласия в воскресенье.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1711 Нумар падпісаны ў друк 20/05/2001 (15:00) Наклад – 9.160